# БЮЛЕТЭНЬ

Беларуск. Рэспублік. К-ту Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых С. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Беларускага Камітэту, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 17 (35) | 20-га сьнежня 1929 году | № 17 (35)



## ЗЬМЕСТ

### А. Пастановы Бел. Рэсп. К-ту:



### Б. Дырэктывы.



## Аб забясьпечаньні рабочых саўгасаў спажывецкімі і прамысловымі таварамі

*(Пратакол Прэзыдыуму № 19)*

Заслухаўшы інфармацыю аб становішчы і забясьпечаньні рабочых саўгасаў спажывецкімі і прамысловымі таварамі, Прэзыдыум Бел. Рэсп. К-ту канстатуе:

1) Што пастановы Прэзыдыуму ад 24/IV дырэктывы Белкаапсаюзу ад 16/IV і НКГандлю ад 24/IV—на мясцох цалкам ня выкананы і што, асабліва за апошні час, пагоршылася снабжэньне рабочых саўгасаў прадуктамі харчаваньня і дэфіцытнымі таварамі.

2) Зусім недапушчальныя адносіны з боку Белкаапсаюзу і НКГандлю да пытаньня забесьпячэньня дэфіцытнымі таварамі рабочых саўгасаў і з боку Белкаапсаюзу да пытаньня крэдытаваньня рабочых саўгасаў.

3) Для ўрэгуляваньня снабжэньня рабочых саўгасаў, Прэзыдыум лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

**Па лініі НКГандлю:**

Згадзіцца з прапановай НКГандлю аб водпуску для снабжэньня рабочых саўгасаў 18.000 пудоў крупы па норме 1,2 кгр. на чалавека ў месяц, пры чым гэтую норму прызнаць мінімальнай.

Гэтую колькасьць крупы безадкладна прапанаваць перадаць БСТ для непасрэднага снабжэньня рабочых саўгасаў.

**Па лініі Белкаапсаюзу.**

Даць паўторныя паказаньні на месцы аб бесперабойным снабжэньні саўгасаў спажывецкімі і прамысловымі таварамі, у прыватнасьці—цукрам, салам, алеям, мануфактурай, скурай і г. д., для чаго забраніраваць у бліжэйшых да саўгасаў каапэратывах адпаведную колькасьць тавараў, асабліва дэфіцытных для снабжэньня рабочых саўгасаў.

Белкаапсаюзу праверыць, як выконваюцца гэтыя дырэктывы і за невыкананьне прыцягнуць вінаватых да адказнасьці.

**Па Лініі Белсельтрэсту.**

Адпусьціць зараз-жа рабочым саўгагасаў на зімовы час па 100 пуд. бульбы на сям'ю. Для тых саўгасаў, дзе бульба выключана гатунковая,—загатовіць бульбу для забясьпечаньня рабочых па тэйжа норме.

Устанавіць для ўсіх саўгасаў цьвёрдыя цэны на наступныя прадукты, якія рабочыя атрымоўваюць у саміх саўгасах: на жыта—96 кап. пуд; бульбу—23 кап. пуд; малако—9 кап. літр; масла—па цэнах каапэратываў са скідкай у 5 проц; крупы па сабекошту.

Норму і мэтад снабжэньня малаком заставіць леташнія.

4) На рабочых сходах правесьці растлумачэньне аб цяжкасьцях у рабочым снабжэньні, аб чым АТЭ скласьці спэцыяльны ліст усім саюзным органам.

5) Даручыць усім акругкомам саюзу на паседжаньнях Прэзыдыуму заслухаць даклады ўпаўнаважанага БСТ, Райсаюзу і Акргандлю аб прынятых мерапрыемствах па забесьпечаньню рабочых у вёсцы, ў асаблівасьці рабочых саўгасаў, спажывецкімі і прамысловымі таварамі, асабліва дэфіцытнымі таварамі.

6) Лічыць зусім ненармальным, што рабочыя саўгасаў ня маюць магчымасьці карыстацца рабочым крэдытаваньнем. Паставіць гэтае пытаньне перад ЭКАНА.

7) Прапанаваць усім рабачкомам на агульных сходах заслухоўваць справаздачы сваіх каапэратываў аб іх рабоце, і ў прыватнасьці аб выкананьні дырэктыў Белкаапсаюзу і НКГандлю аб снабжэньні рабочых саўгасаў.

8) Безадкладна заняцца пытаньнем аб арганізацыі грамадзкага харчаваньня ў саўгасах і арганізацыі агульнага жыцьця для рабочых саўгасаў.

9) АТЭ разам з Наркамгандлем і Белкаапсаюзам своечасова распрацаваць пытаньне аб снабжэньні рабочых саўгасаў на будучы год.

10) Беп. Батраку шырока асьвятліць становішча забясьпячэньня рабочых саўгасаў.

## Беспрацоўе і мерапрыемствы па матар'яльнай і працоўнай дапамозе

*(Пратакол. Прэзыдыуму № 19)*

Адзначыць няпоўнае выкананьне акругкомамі і рабачкомамі дырэктыў ЦП ад 24/VIII-27 г. і 1-га жніўня 1928 г. у галіне аказаньня працоўнай і матар'яльнай дапамогі беспрацоўным. Ня гледзячы на масавае разгортваньне сэзонных работ, беспрацоўе па саюзу ў параўнаньні з мінулым годам не зьмяншаецца, а павялічваецца (на 1/XI-28 г. было беспрацоўных—4.740, на 1/VII-29 г.—6.458), што гаворыць аб тым, што з боку акругкомаў і рабачкомаў была зьвярнута зусім недастатковая ўвага пасылцы беспрацоўных на сэзонныя работы. Пры выдачы беспрацоўным грашовай дапамогі ня ўсе саюзныя органы кіраваліся ранейшымі паказаньнямі ЦП аб парадку і разьмерах грашовай дапамогі.

У мэтах зьменшаньня беспрацоўя і недапушчэньня асяданьня беспрацоўных у акруговых гарадох, Прэзыдыўм БелРэсКа лічыць неабходным правесьці наступнае:

а) Акругкомам і рабачкомам саюзу галоўную ўвагу зьвярнуць на аказаньне беспрацоўным працоўнай дапамогі. Для чаго зараз-жа праз лесанарыхтоўчыя арганізацыі высьвятліць патрэбную колькасьць рабочай сілы для лесанарыхтовак у гэтым годзе і прыступіць да арганізацыі лесарубчаскіх арцеляў з беспрацоўных членаў саюзу і батрацтва.

2) У сувязі з тым, што маецца шэраг выпадкаў з боку асобных лесанарыхтоўчых органаў на мясцох, наяўнага нежаданьня ўвязаць пытаньні найму рабочай сілы з мясцовымі і саюзнымі ячэйкамі, прасіць трэст Лесбелу даць указаньні па лініі лесанарыхтоўчых вучасткаў аб поўнай увязцы пытаньняў найму рабочай сілы і абслугоўваючага персаналу з мясцовымі і саюзнымі органамі.

Акругкомам і рабачкомам прасачыць за поўным выкананьнем гаспадарчымі органамі пастанов ураду па своечасовым

забясьпячэньні беспрацоўных неабходнымі прыладамі (сякеры, пілы).

3) Далейшае ўзбуйненьне і арганізацыя новых калгасаў павінна ў значнай меры садзейнічаць зьмяншэньню беспрацоуя сярод батрацтва. Акругкомам і рабачкомам прыняць усе захады, каб крэдытнымі, каапэрацыйнымі і зямельнымі органамі цалкам выкарыстоўваліся фонды па вытворчым каапэраваньні батрацтва па лініі калгасаў і камун.

4) Паставіць пытаньне перад НКПрацы і настойваць аб пасылцы на курсы па падрыхтоўцы будаўнікоў ня менш 2.000 батракоў.

5) Паставіць пытаньне перад НКПрацы і ЦСПСБ аб павялічэньні колькасьці месц для батракоў у Цэнтральным Інстытуце Працы.

6) Адзначыць зусім ненармальнае становішча, што да гэтай пары батрацтва амаль што не ўцягвалася на работы па будаўніцтву дарог.

Даручыць АТЭ разам з Галоўшосам даць указаньне на месцы аб большым уцягненьні батрацтва на гэтыя работы.

7) Падняць пытаньне перад НКПрацы аб забесьпячаньні ў гэтым годзе 600 чалавек беспрацоўнага батрацтва неабходнай спэцвопраткай, з разрахунку 25 руб. на чалавека за кошт нескарыстанага фонду страхорганаў па аказаньню дапамогі беспрацоўнаму батрацтву.

8) На чарговым паседжаньні Прэзыдыуму заслухаць даклад аб скарыстаньні фонду сацстрахаваньня батрацтва.

9) Акругкомам і рабачкомам да 30-га сьнежня г. г. злажыць каштарыс па фонду беспрацоуя на першае паўгодзе 1930 году. Пераглядзець склад беспрацоўных з мэтай выключэньня з саюзнай дапамогі тых беспрацоўных, якія на працягу апошняга сэзону нідзе не працавалі і адмаўляліся ад прадстаўлямай ім працы.

10) Пацьвердзіць ранейшую дырэктыву ЦП ад 1-га жніўня 1928 г. (Бюлетэнь № 13) аб парадку і разьмеры выдачы грашовай дапамогі беспрацоўным.

## Аб ходзе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых

*(Пратакол Прэзыдыуму № 21)*

1. Канстатаваць, што работа па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод батрацтва да гэтага часу разгорнута надзвычайна слаба. Некаторыя прафарганізацыі (Мазыр, Полацк, Менск) у гэтай рабоце праяўляюць недапушчальную марудпасьць і інэртнасьць, што пагражае зрыў работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

2. Катэгарычна ўказаць усім Акругкомам і рабачкомам саюзу і ўпаўнаважанаму на Менакрузе на абавязковасьць поўнага выкананьня намечанай дагаворамі работы.

3. Работу па ліквідацыі няпісьменнасьці ў сучасны момант лічыць аднэй з важнейшых, што патрабуе рашучага ўзмацненьня тэмпа работы і мабілізацыі ўсіх сіл навокал ліквідацыі няпісьменнасьці.

4. Бліжэйшымі задачамі ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці Прэзыдыум БелРэсКа саюзу ставіць:

а) Усім акругкомам і рабачкомам саюзу і ўпаўнаважанаму па Менакрузе безадкладна праверыць работу па ліквідацыі няпісьменнасьці на мясцох. Дабіцца ўцягненьня ў лікпункты большай, чым прадугледжана ў дагаворах, колькасьці няпісьменных.

б) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на праверку працы камісій па садзейнічаньні лікбезу, якія створаны пры с/с, забясьпечыўшы актыўны ўдзел у іх рабоце рабачкомаў саюзу.

в) Пры абсьледваньні саюзнай работы абавязкова ўключаць у праграму абсьледваньня праверку па ліквідацыі няпісьменнасьці.

г) Прыняць усе меры да поўнага і беспрабойнага забесьпячэньня лікпунктаў падручнікамі і пісьмовымі прыладамі.

д) Прыцягнуць да актыўнага і канкрэтнага садзейнічаньня і дапамогі ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці прафарганізацыі іншых саюзаў у парадку дапамогі саюзу СГЛР на падставе

дадзеных па лініі гэтых саюзаў дырэктыў (Працасьветы, Саўгандальслужачых, Мэдсанпрацы і г. д.).

е) Усім акругкомам саюзу і ўпаўнаважанаму па Менакрузе завесьці точны вутот работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Пацьвердзіць абсалютную неабходнасць дасылкі ў БелРэсКа точных вестак аб ходзе работы па ліквідацыі няпісьменнасьці праз кожныя 10 дзён (1—11—21 кожнага месяцу). Весткі аб працы лікпункту павінны даваццa за подпісамі настаўніка і с/рабачкому.

Культаддзелу пільна сачыць за выкананьнем гэтага пункту, ставячы пытаньне аб невыконаючых на Прэзыдыуме БелРэсКа.

ж) Лічыць неабходным, каб такі-ж вучот быў заведзены ў НКАсьветы, аб чым паставіць пытаньне перад НКАсьветы.

з) Культаддзелу разам з НКАсьветы выбарачным парадкам праверыць у працягу мясяца работы па ліквідацыі няпісьменнасьці ў 2-х акругах.

і) Культаддзелу сумесна з НКАсьветы падрыхтаваць пытаньне аб скліканьні праз 2 м-цы нарады па пытаньні ходу работы па ліквідацыі няпісьменнасьці.

к) Лічыць неабходным, каб па лініі НКАсьветы таксама была праведзена праверка ходу работы па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сельгаслесрабочых.

л) Рэдакцыі „Бел. Батрак“ узмацніць асьвятленьне ходу работы па ліквідацыі няпісьменнасьці на старонках газэты, рашуча выкрываючы канкрэтных асоб, вінаватых у зрыву работы і тормазу ў рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці.

## Аб масавых вытворча-тэхвічных курсах у саўгасах

*(Пратакол Прэзыдыуму № 21)*

1. У мэтах актыўнага і сьвядомага ўдзелу масы сельгаслесрабочых у працы па рэканструкцыі сельскае гаспадаркі (калектывізацыя, выкананьне вытворчага пляну 5-ці годкі, машынізацыя) пра павышэньне яго вытворчых і тэхнічных ведаў—лічыць неабходным арганізацыю пры саўгасах курсаў масавай сельскагаспадарчай асьветы.

2. Курсы працуюць пры кожным саўгасе БССР па папярэдне намечанаму пляну ў працягу 3-х месяцаў (15/XII—15/III), ня менш аднаго разу ў пяціднёўку (усяго 18 навучальных дзён).

3. У праграму курсаў павінна ўваходзіць:

а) Агульныя палажэньні палітыкі камуністычнай партыі і савецкай улады ў галіне сельскае гаспадаркі;

б) Разбор і апрацоўка пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва;

в) Практычныя заняткі па вывучэньні разбору і дробнага рэмонту с/г машын саўгасаў (трактар, жнеярка, малацілка і г. д.);

г) Азнаямленьне сяброў гуртку з тэхнічнымі прадпрыемствамі і іх працай (дзе яны маюцца);

д) Дадатковыя элементарныя веды па аграноміі, жывёлаводству і г. д. з удасканаленьнем той галіны сельскае гаспадаркі, якая пераважна для данага саўгасу (праходзіцца, калі праграма курса будзе пройдзена і курсы будуць разьбіты па ўхілам);

е) Рацыоналізацыя вытворчасьці;

ж) Зьніжэньне сабекошту і палепшаньне якасьці прадукцыі саўгасу;

з) Зьдзельшчына і арганізацыя працы;

4. Курсы камплектуюцца з ліку сталых і сэзонных рабочых даннага саўгасу, а таксама батрацтва.

5. Кіраўніцтва курсамі павінна ўзяць на сабе кіраўнікі, альбо намесьнікі кіраўнікоў саўгасаў, спэцыялістыя саўгасаў, з абавязковым прыцягненьнем праз Аграсэкцыю раённай аграноміі.

6) З мэтай прадстаўленьня рабочым саўгасаў поўнае мажлівасьці дасканальнай прапрацоўкі матар'ялаў да заняткаў у школе, лічыць неабходным скараціць працоўны дзень для наведваючых курсы—рабочых саўгасаў на дзьве гадзіны ў дзень заняткаў.

7. Забясьпечаньне курсаў неабходнымі прыладамі і падручнікамі павінна праводзіцца праз спэцыяльныя асігнаваньні па каштарысах саўгасаў і рабачкомаў.

8. Даручыць усім Акругкомам і Рабачкомам саюзу і ўпаўнаважанаму па Менскай акрузе прасачыць за своечасовым арганізацыйным афармленьнем, пачаткам і нармальным ходам работы курсаў, устанавіўшы сталы сыстэматычны кантроль над іх працай.

9. Культаддзелу і Аграсэкцыі выпрацаваць праграму курсаў і забясьпечыць курсы літаратурай.

## Аб становішчы лесаабнаўленьня ў БССР

*(Пратакол Прэзыдыуму № 21)*

Заслухаўшы даклад тав. Пятрушына аб становішчы лесаабнаўленьня ў лясох БССР у сувязі з пастановай калегіі РСІ Прэзыдыум БелРэсКа саюзу пастанаўляе:

Адзначыць: а) недастатковую ўвагу справе лесаабнаўленьня з боку лясных органаў, дзякуючы чаму праца па лесаабнаўленьню разгортваецца зусім слаба і не забясьпечвае поўнага лесаабнаўленьня ў параўнаньні з вырубкамі лесу, б) недастатковую колькасьць тэхнічнага пэрсаналу для выкананьня пляну лесаабнаўленьня, в) нізкую якасьць культур, г) недастатковае скарыстоўваньне магчымасьці па збору насеньня і дрэннае яго захоўваньне, што перашкаджае пашырэньню лесакультур.

Выходзячы з гэтага, у мэтах больш пасьпяховага і рацыянальнага выкананьня мерапрыемстваў па лесаабнаўленьню, вызначаных па 5-ці гадовым пляну, Прзыдыўм БелРэсКа саюзу лічыць неабходным:

1. Кіраўніцтву Лясамі зьвярнуць асаблівую ўвагу на справу лесаабнаўленьня і забясьпечыць лесакультурныя работы дастатковай колькасьцю тэхпэрсаналу.

2. Гадовыя пляны абавязкова ўвязваць з кантрольнымі лічбамі 5-ці гадовага пляну, ні ў якім разе не папускаючы зьніжэньня, а наадварот—пераглядзець пляны ў бок павялічэньня.

3. Падвесьці дэталёвы вучот падлягаючых абсеменяненьню плошчаў па лясьніцтвах і скласьці да 1/1V-30 г. пляны закультывіраваньня ўсіх непакрытых лесам плошчаў.

4. Паставіць пытаньне перад фінансавымі органамі аб своечасовым забясьпячэньні лесакультурных работ сродкамі ў дастатковай колькасьці ў адпаведнасьці з зацьверджанымі плянамі лесаабнаўленьня.

5. Прыпыніць беспадстаўныя і непатрэбныя перакідкі лясных спэцыялістых і культнаглядчыкаў.

6. Арганізаваць сталы нагляд за ўраджайнасьцю насеньня па гадох, для загатоўкі насеньня на неўражайныя гады.

7. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на лесаабнаўленьне дуба, ясеня і вольхі, каб высечаныя плошчы гэтых вельмі каштоўных дрэвастанаў абавязкова абнаўляліся пераліченымі пародамі.

8. Палепшыць меры дагляду за культурамі і плошчамі застаўленымі пад культурнае хлебаабнаўленьне.

9. Забараніць пасьбу жывёлы на плошчах закультывіраваных і прызначаных пад лесаабнаўленьне.

10. Значна пашырыць мерапрыемствы па дагляду за дрэвастанамі і канчаткова зьнішчыць камерцыйны падыход да мерапрыемстваў па ўходу за лесам, дзякуючы чаму меры дагляду ў маладняка амаль зусім на праводзіліся.

11. Забясьпечыць лясьніцтвы неабходнай колькасьцю лесакультурных інструмэнтаў (плугамі, сеялкамі, сажальнымі каламі, лапатамі і інш.).

12. У мэтах правядзеньня мерапрыемстваў па мэханізацыі і рацыяналізацыі лесакультур і інш. працэсаў у лясной гаспадарцы паставіць пытаньне аб забесьпячэньні лясной гаспадаркі карчавальнымі машынамі і трактарамі.

13. Прыступіць з вясны будучага году да арганізацыі сталых кадраў рабочых па лесаабнаўленьню і па дагляду за лесам.

14. Падрыхтаваць пытаньне аб арганізацыі кароткатэрміновых курсаў па лесакультурах і мерах дагляду за лесам для падрыхтоўкі лясной варты, культур-

наглядчыкаў і кваліфікаваных рабочых.

15. Пры рабачкомах лясьніцтваў арганізаваць вытворчыя гурткі і забясьпечыць іх адпаведнай тэхнічнай літэратурай па лясной гаспадарцы і належнымі падручнікамі за кошт гаспадарчых органаў.

16. Кіраўніцтву лясамі разам з АТЭ і Бюро Лессэкцыіі распрацаваць да 1/IV-30 г. нормы для выкананьня лесакультурных работ у мэтах пераводу аплаты працы на зьдзельшчыну.

17. Кіраўніцтву лясамі зьвярнуць больш увагі на лесаабнаўленьне ў лясох мясцовага значэньня, забясьпечваючы насельніцтва тэхнічнай дапамогай і насеньнем.

18. Рабачкомам лясьніцтваў і лессэкцыям праводзіць у плянавым парадку вытворчыя нарады і дэталёва прапрацоўваць усе мерапрыемствы па правядзеньню лесакультурных работ у межах свайго лясьніцтва.

19. Арганізаваць сацспаборніцтва, як паміж лясьніцтвамі, так і паміж асобнымі работнікамі свайго лясьніцтва на хутчэйшае лесаабнаўленьне непакрытых плошчаў і лепшую якасьць культур, а таксама на лепшую ахову лесакультур і плошчаў, застаўленых пад натуральнае лесаабнаўленьне ад патравы жывёлы.

20. Акругкомам саюзу праз рабачкомы лясьніцтў арганізаваць на мясцох: сталую дапамогу па выкананьні мерапрыемстваў па лесаабнаўленьню.

*Усім Акр. Камітэтам саюзу СГЛР і АкрНА*

## Аб парадку разьліку за ліквідацыю няпісьменнасьці сярод батрацтва і сельгаслесрабочых

Згодна заключанага гэнэральнага дагавору ЦП саюзу з Наркамасьветы п. 3 абзац „в.“ і „г.“, плата за ліквідацыю няпісьменнасьці сярод батрацтва і сельгаслесрабочых і забесьпячэньне лікпунктаў патрэбнымі падручнікамі ўносіцца непасрэдна Акруговымі Камітэтамі саюзу, а па Менскай акрузе—БРК, згодна дадатковых паакруговых дагавороў у Акрана. Рабачкомы і сельрабочкомы ўсе сродкі, прадугледжаныя сваімі каштарысамі на ліквідацыю няпісьменнасьці, за 2-ю палову 1929 г. павінны безадкладна і цалкам перавесьці ў Акруговыя Камітэты саюзу, а па Менакрузе ў БРК не пазьнее 5/I 30 г.

Утвэрыць на мясцох непасрэдныя разьлікі з райінспэкцыямі асьветы за ліквідацыю няпісьменнасьці і падручнікі катэгарычна забараняецца.

Плата за ліквідацыю няпісьменнасьці ўносіцца АК Саюзу ў АКРНА ў тэрміны вызначаныя ў акруговых дагаварох.

Загадчык Культаддзелу БРК саюзу
Сельгаслесрабочых **Башмачнікаў**
Кіраўнік спраў **Юшкевіч.**

*Усім рабачкомам, сельрабачкомам і упаўнаважаным*

## Па статчастцы

У канцы сьнежня м-цу Вам будуць прысланы блянкі для статсправаздачнасьці на студзень м-ц 1930 г. і

а) карткі хуткага вучоту аб колькасьці членаў саюзу на 1/I-1930 г.

б) карткі прафскладу беспрацоўных.

Прапануецца па атрыманьні блянак зараз-жа запоўніць адпавэднымі зьвесткамі і накіраваць іх у Акруговыя Камітэты Саюзу не пазьней 5/1-1930 г.

Райінстрактарам прасачыць каб рабачкомамі ўсе статзьвесткі былі запоўнены правідлова і сваячасова адасланы.

Адк. Сакратэр БРК Саюзу
**Шчамёлева.**

Кіраўнік спраў **Юшкевіч.**

## Программа обучения учеников-подростков по заготовочному ремеслу

**(для кустарного производства)**

Срок обучения 6 месяцев.

### Машинисты:

| | Оплата по |
|---|---|
| **1-й период:** | |
| Ознакомление с машиной . Тачка заднего шва в полотне Тачка и строчка языков . | 1-му разр. |
| **2-й период:** | |
| Строчка полотна и фольг . Точка детских ботинок . Строчка кантиков . . | 2-му разр. |
| **3-й период:** | |
| Точка швов . . . Строчка задников и носков в детских . . . Строчка кантиков в больших | 3-му разр. |
| **4-й период:** | |
| Настрочка ремешков . . Строчка носков . . . Тачка и настрачивание швов Строчка клямр и наклейных союзок (массовой обуви) . | 4-му разр. |
| **5-й период:** | |
| Все вышеуказанные процессы на галантерейную обувь и строчка капок без накл. | 5-му разр. |
| **6-й период:** | |
| Самостоятельная пристрочка заготовки вкюч. и обложен. | 6-му разр. |

### Столовики:

| | Оплата по |
|---|---|
| **1-й период:** | |
| Точка ножа . . . Разглаживание швов . . Вставление пистонов . . Мазать . . . . Изготовление язычков . . | 1-му разр. |
| **2-й период:** | |
| Кройка фольг и верхушек . Брусовка фольг и заколодка Детские сторонки . . Выклейка детских ботинок . Наклейка задников . . | 2-му разр. |
| **3-й период:** | |
| Загибка сторонок мужских и дамских без обложений . Ладовка детских ботинок . Брусовка детских ботинок . Обрезка фольг . . . | 3-му разр. |
| **4-й период:** | |
| Заколодка всей работы . Ладовка всей работы . . Кройка сторонок по моделям Высеч. дырок (к мас. обуви) | 4-му разр. |
| **5-й период:** | |
| Все вышеуказан. процесы на галантерейную обувь . | 5-му разр. |
| **6 й период:** | |
| Самостоятельное изготовлен. целой заготовки . . | 6-му разр. |

## Паведамленьне

Анкеты па вучоту няпісьменных і малапісьменных адасланы ў канцы лістападу м-цу ў акруговыя камітэты ЛКСМ (па Менскай акрузе), а па апошнім акругам у Акруговыя Камітэты Саюзу.

Сьпіскі па вучату няпісьменных (сьпіскі складаюцца на падставе вышэйпадзначаных анкет)—адсылаюцца аднačасова сельрабачкомам. Сельрабачкомы і рабачкомы атрыманыя сьпіскі павіны перадаць у сельсаветы і разам з прадстаўнікамі ЛКСМ і с/савету занесьці ў іх усіх непісьменных і малапісьменных батракоў і сельгаслесрабочых.

Анкеты няпісьменных і малапісьменных пасьля занясеньня іх у сьпіскі, павіны быць перададзены настаўніку лікпункту (глядзі паказаньне на блянку анкеты).

Выдавецтва Бел. Рес. К-ту Сельгаслесрабочых СССР.

Адказны рэдактар—Вайтэнкаў.
Намесьнікі яго: Аскерка, Юшкевіч.

Галоўлітбел № 562. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдома